# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 2 (1246) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 13 СТУДЗЕНЯ 1980 г. ЦАНА 1 зл.




*Новы будынак Тэатра лялек.*

З рэпарцёрскіх запісак

## Куратнік за сем мільёнаў

Слохі Аннапольскія. Вёска ў Сямяціцкай гміне. Расселася паабапал шашы з Сямяціч у Драгічын. Солтыс яе, **Ян Семянюк,** кажа, што зараз у Слохах 138 гаспадароў. Калі меркаваць па вонкавых прыкметах, дык жывуць яны добра. Вуліца брукаваная, з тратуарам, свая крама, раміза, многа прыгожых мураванак.

— Амаль усе сяляне ў Слохах, — гаворыць солтыс, — спалучаюць працу на ўласнай гаспадарцы з працай на розных прадпрыемствах. А чатыры гаспадары заснавалі ў нас суполку гадоўлі курэй. Вунь там яна, за вёскай...

*

Два будынкі па 112 метраў даўжыні і 13 метраў шырыні, а між імі на два паверхі ўзвышаецца жылы дом, які тут называюць службовым або сацыяльным памяшканнем.

І першая думка: як жыць тут у атмасферы, насычанай вострым пахам? Але праходзіць першая гадзіна часу маёй тут пабыўкі і я паволі прывыкаю да паветра курынай фермы, пад дахам якой адначасова памяшчаецца амаль 14 тысяч курэй.

Вокны ў будынках забітыя дошкамі. Па 16 гадзін у суткі гарыць безупынку святло. Дзіўнае, чырвонае святло. Доўгія калідоры між клеткамі для курэй у гэтым святле напамінаюць сцежкі праз казачнае пекла, а людзі, якія ходзяць па гэтых калідорах, разносячы корм і падбіраючы яйкі, выглядаюць, быццам з'явы не з гэтага свету.

— Пры чырвоным святле куры спакайнейшыя. Яны не заклёўваюцца ўзаемна, а калі нават гэта здарыцца, дык чырвоны колер святла зліваецца з чырванню крыві і куры проста яе не бачаць і не звяртаюць на яе ўвагі.

Так паясняе мне справу **Мар'ян Рачынскі,** які тут з'яўляецца кіраўніком, або, інакш кажучы, упаўнаважаным ад гэтай сялянскай суполкі.

— Мы прабавалі гадаваць свае куры таксама пры белым святле, бо ў кніжках пішуць, што курыца лепш нясецца, калі мае больш натуральнага святла, але яны тады даставалі нейкага незразумелага шалею і адна другую дзяўбла да смерці. А калі пачыналі дзяўбсціся дзве курыцы, за іх прыкладам ішлі наступныя.

Не цяжка сабе ўявіць, што дзеецца ў

**(Працяг на стар. 4)**

## Для вычароўвання казачных светаў

Дарослыя Беласточчыны на заканчэнне мінуўшага ўжо Міжнароднага года дзіцяці сваім любым маленькім паднеслі, бадай, найлепшы і найцікавейшы гасцінец: 19 снежня аддадзен у карыстанне новы будынак Тэатра лялек.

У гэтай урачыстасці прынялі ўдзел прадстаўнікі цэнтральных, ваяводскіх і гарадскіх установаў і арганізацый, будаўнікі аб'екта і дэлегацыі юных гледачоў з беластоцкіх прадшколляў і школаў.

Тэатр пабудаваны ў месцы найбольш адпаведным, бо ў цэнтры горада, побач са скрыжаваннем вуліц Каліноўскага і Астроўскага, каля зімовай горкі для язды на лыжах і саначках, побач амфітэатра. Хоць паўставаў з натугаю і вельмі доўга (праект яго быў гатовы ў 1964 г., а фундаменты пракладзены ў 1975 г.), затое малыя жыхары Беласточчыны атрымалі праўдзівейшы свой тэатр. Такога, спецыяльна будаванага лялечнага тэатра, няма нідзе ў Польшчы, а ў Еўропе ёсць толькі ў Маскве тэатр Абразцова і яшчэ — у Югаславіі.

Жменька лікаў пра новы аб'ект: яго кубатура складае 10 тысяч кубаметраў, паверхня — 2,5 тыс. квадратных метраў, паверхня сцэны разам з так званымі „кішэнямі“ — 190 кв. м, глядзельнай залы — 180 кв. м, у зале — 242 месцы для гледачоў, шэсць гардэробаў для акцёраў, адпаведныя прыстасаванні для пастановак усіх відаў лялечнага мастацтва (кіраваныя лялькі, марыянеткі і г.д.), багацейшае тэхнічнае абсталяванне ўключна з тэлевізійнымі манітарамі і магчымасцю запісаў на магнетавідах цэлых спектакляў, нават буфет-кафэ для гледачоў з манітарам, а на яго экране — усё, што ў даны момант дзеецца на сцэне.

А паглядзець тут будзе што. Тэатр плануе (як дагэтуль яго планы заўсёды выконваюцца вельмі старанна) даваць у год па 420 спектакляў, з іх 310 у

Працяг на стар. 4



**Беларуская песня — 79.** Ніна Такаюк і Яўгенія Вішанка з Рагачоў — трэцяе месца ў катэгорыі фальклорнай песні сярод дуэтаў.



Яніна Закшэўская і Ялена Харкевіч з Ляўкова — трэцяе месца ў катэгорыі сучаснай песні сярод дуэтаў.

Фота Я. Целушэцкага.

## ХРОНІКА

■ У Залуках (гміна Гарадок) на сваім сходзе члены БГКТ выказалі жаданне арганізаваць у сваёй вёсцы харавы калектыў. Яны і надалей будуць прымаць удзел у грамадскіх пачынах. Падчас дыскусіі выступіў таксама дырэктар мясцовай школы Францішак Апановіч, які заўсёды дае магчымасць выкарыстоўваць школьнае памяшканне ў культурнай дзейнасці гуртка БГКТ. Прысутныя выбралі новае праўленне. Старшынёю гуртка і дэлегатам на з'езд БГКТ стала Галіна Рогач, сакратаром — Ірэна Паплаўская, скарбнікам — Леанард Арцішэўскі.

■ У Баброўніках (гміна Гарадок) бэгэкатоўцы жадаюць, каб пры дапамозе ГП у іх вёсцы арганізаваць некалькі культурных мерапрыемстваў. Склад новага праўлення гуртка: Софія Цацэрка — старшыня, Яўгенія Авечка — сакратар і Леакадзія Бака — скарбнік. Дэлегатам на з'езд БГКТ выбраны Іван Фідзюкевіч.

У Залуках і Баброўніках сходы абслужыў інспектар ГП БГКТ Славамір Самойлік.

■ Сябры ў Рыбаках (гміна Міхалова) падсумавалі дагэтуляшнюю дзейнасць гуртка БГКТ. Ацанілі яе станоўча. У планах працы прадбачана наладжванне спатканняў з літаратарамі „Белавежы“ і журналістамі „Нівы“. У склад новага праўлення увайшлі: Мікалай Хлябіч — старшыня, Аляксандр Хлябіч — сакратар, Мікалай Міруць — скарбнік. На з'езд БГКТ паедзе Хведар Хлябіч. Сход абслужыў член прэзідыума ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі.

■ Справаздачна-выбарны сход у Вярхлессі (гміна Шудзялава) адбыўся 7 снежня. У дыскусіі найбольш увагі было звернута на ажыўленне дзейнасці гуртка і на неабходнасць часцейшых прыездаў прадстаўнікоў ГП з непасрэднымі інфармацыямі аб дзейнасці БГКТ у паасобных мясцовасцях. Дэлегатам з'езду і старшынёю гуртка выбраны Яўген Малішэўскі, намеснікам старшыні — Яўген Аношка, сакратаром — Веслаў Макар, скарбнікам — Веслаў Гіба.

■ 8 снежня Віктар Швед правёў аўтарскую сустрэчу ў Гарадку, а 9 снежня — у клубе БГКТ у Беластоку.

■ Гарадскі гурток у Бельску справаздачна-выбарны сход адбыў 11 снежня. Перад сходам выступіў з канцэртам мясцовы харавы калектыў „Васілёчкі“. Са справаздачным дакладам выступіў Аляксей Карпюк. У дыскусіі сябры закранулі найважнейшыя справы ў дзейнасці гуртка, яго добрыя бакі і недахопы. Бельскі гурток налічвае амаль 70 членаў. Сябры падкрэслівалі, што неабходна яго яшчэ разбудаваць і зрабіць усё, каб дзейнасць яго была адчувальная ў горадзе. У гэтым напрамку накіраваны і прыняты праграма і план працы. Прысутны на сходзе намеснік начальніка горада Лявонцій Парафінюк запэўніў прысутных, што гарадское ўпраўленне будзе аказваць дапамогу перш за ўсё харавому калектыву. Нядаўна на яго патрэбы прыдзелена было 50 тыс. зл. Сход закончыўся выбарамі. Новае праўленне складаецца з наступных асоб: старшыня — Уладзімір Раеўскі, намеснік старшыні — Язэп Альшэўскі, сакратар — Вера Рышчук, скарбнік — Янка Кірызюк, члены праўлення — Васіль Антыпюк і Сцяпан Бурыла. На з'езд БГКТ паедуць Уладзімір Раеўскі і Сцяпан Трахімюк. У сходзе ўзяў удзел старшыня ГП Мікалай Самоцік.

■ 17 снежня на пасяджэнні ГП у павестцы дня былі наступныя пункты: 1. Інфармацыя аб ходзе справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ, 2. Справаздача аб выкананні плана працы Прэзідыума ГП на першае паўгоддзе 1980 года.

■ 16 снежня на 62 годзе жыцця памёр у Бельску былы дзеяч ГП БГКТ Мікола Калядка. На пахаванні была дэлегацыя ГП. **(МХ)**

Імпартгумар

# А ЯК ТВОЙ?

Здарылася так, што Марыля Мікодымаўна і Эльвіра Захараўна, мусіць, з год не сустракаліся. Апошняя сустрэча была мінулым летам, калі разам са сваімі гаспадарамі ездзілі да знаёмага лесніка.

І вось не так даўно зноў сустрэліся. Эльвіра Захараўна была на базары, аж глядзіць — Марыля Мікодымаўна ідзе. Кінулася Эльвіра Захараўна насустрач, ног пад сабой не чуючы.

— Мусенька, золатка, прывітанне!

— Колькі лет, колькі зім! — у захапленні выгукнула Марыля Мікодымаўна. — Вось дык сустрэча!

Яны пацалаваліся. Шчыра ўзрадаваліся адна адной.

— Ну, расказвай, усё папарадку... — нецярпліва прыспешвала Эльвіра Захараўна.

— Не, расказвай, як ты, — перабіла Марыля Мікодымаўна. — Што новага, як пажываеш?

— Ат, і не пытай, — горка пасміхнулася Эльвіра Захараўна. — Жыву, як гарох пры дарозе. Чула, напэўна: мой дзесьці ўцёк...

— Як уцёк?..

— Зусім проста. Ужо паўгода, як сляды замёў. Колькі ні шукала — усё дарэмна. А як твой?

— Сваім нацешыцца не магу, — заспяшалася Марыля Мікодымаўна. — Ачуняў, паправіўся... Дый не дзіўна: есць усё без разбору. Што ні дасі — хапае, асабліва мясное.

— Мой таксама мяса любіў... Ні ў чым яму не адмаўляла. А ён знік — і шукай цяпер ветра ў полі. Колькі я мучылася, перажывала. Ты сабе не ўяўляеш, Мусенька!

— Не журыся, Эльвірачка, — суцешыла сяброўку Марыля Мікодымаўна. — Захочаш — яшчэ прыгажэйшага знойдзеш.

— А я і не журуся. Падумаеш — праблема. Жыццё ўжо навучыла мяне. Духам не падаю, не думай. А як твой? Хаты трымаецца? Каханак не шукае?

— Ой не! — радасна ўскліквула Марыля Мікодымаўна. — Слава Богу, двара трымаецца, хоць іншы раз і спускаю яго з ланцуга...

— З ланцуга, Мусенька, спускаць не раю. За ім так і цікуй, так і цікуй! Мой таксама, бывала, абдымаў, цалаваў, лашчыўся, а потым так драпануў дзесь, што і след прастыў.

— Мой не з той пароды, — задаволена сказала Марыля Мікодымаўна. — Бывае, што калі правінавайцца. Дык ведаеш, Эльвірачка, я яму кару прыдумала: па некалькі дзён да хаты не пускаю. А як жа: хай знае парадачкі!

— Ты жорсткая, Мусенька!

— А з імі інакш і нельга. Зусім распярэжацца!

— І ён нічога?

— Абсалютна. Дарэчы, пасля гэтага яшчэ ласкавейшы робіцца, на суседзяў нават не гаўкае...

— Мой таксама з суседзямі мірна жыў. Асабліва з Клавачкай. Часта да яе забягаў...

— Адна бяда ў майго, што парой чагось вые ноччу.

— Кепская прыкмета, Мусенька. Мой таксама выў, калі ўцякаць збіраўся... А цяпер і пра аліменты забыў.

— Пра якія аліменты? — вытарашчылася Марыля Мікодымаўна.

— Пра свайго галубка-мужыка расказваю, — тлумачыла Эльвіра.

— Цьфу. А я ж пра свайго сабаку...

Толькі цяпер Эльвіра Захараўна ўцяміла, што яны летась разам купілі двух пародзістых сабачак у знаёмага лесніка.

**Якаў Муляр**




„Made in Zadrypanka“.







З „Весніка Задрыпоніі“

### АДУКАЦЫЯ

У Задрыппалітэхніцы ўведзены новы парадак: абітурыенту, які пяць год запар намагаўся паступіць у гэты вуз, выдаецца дыплом.

### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Канцэрт на стадыёне — гэта мастацтва ці спорт?

# Pierwszy siwy włos

Słowa: Kazimierz Winkler
Muzyka: Henryk Jabłoński

Babie lato wokół płynie przez jesienny park,
z dala ktoś na mandolinie kołysankę gra.
Chodźmy, miły(ła), pod nasz stary dąb.
Jakże kocham ciepło twoich rąk.
Pomyśl, ile to już lat idziemy przez ten świat.

Spostrzegłam(łem) dzisiaj pierwszy siwy włos na twojej skroni
i widzisz, miła(ły), przed wzruszeniem trudno się obronić.
Mam przecież w oczach dzień, gdy pierwszy raz ujrzałam(łem) ciebie.
Pamiętam każde słowo, każdy uśmiech twój.

Czas nie ostudzi ludzkich serc, gdy mocna miłość płonie.
Całuję pierwszy siwy włos, co zalśnił na twej skroni.
Tak piękną mamy jesień, miły(ła), cichą i pogodną.
Spójrz, jak babiego lata płynie srebrna nić.

Jak obłoki dwa łabędzie przecinają staw.
Człowiek zawsze wracać będzie do lirycznych spraw.
Chodźmy, już się kryje słońca blask.
W domu dzieci oczekują nas.
Pomyśl, ile to już lat idziemy przez ten świat.

Spostrzegłam(łem) dzisiaj...



**Нават памылкі ён рабіў такія, на якіх ніхто не мог павучыцца.**

### СІЛА ВОЛІ

У панядзелак, пасля чарговай гарэлачнай баталіі, Кастусь і кум цвёрда вырашылі кінуць піць.

— Ну, як справа? — спытаў Кастусь, сустрэўшы кума праз тыдзень у „Хвілінцы“.

— Бадай кінуў, — адказаў кум, запіваючы свежым півам свае словы. — Толькі ў аўторак з Іванам тры чвэрткі раздушылі, ды ў сераду новы капелюш у Панасюка абмывалі, ды яшчэ ў пятніцу са сватам выпілі. І гэта — усё.

— Ну, і сіла волі ў цябе, кум! Бачу, ты такі ж кінуў, а я вось ніяк не магу, — сказаў засмучаны Кастусь.



**Трымайце вуха!**

### САВОСЬ, АНТОСЬ І АПАНАС

Гаворыць да Антося Апанас:
— Быў толькі што ў Савося, ён такое
нёс, братка, на цябе ліхое!..
Між іншым і не першы раз.
Антось гаркава зморшчыў лоб:
— Чаму ж ён мне не скажа ў вочы?
Будзь ласкаў, папытай, чаго ён хоча.
Ды Апанас, да звады ўсякае ахвочы,
ужо Савосю на Антося нёс паклёп:
— Савоська, братачка, Антося бачыў,
ты б толькі чуў, як лаяў ён цябе!
За што, не ведаю,
няйначай, ты з ім у нейкай у цяжбе.
Савось задумаўся: „Ну, за якія грахі такія
мог на мяне пакрыўдзіцца Антось?..“
Пачаў прыгадваць ён, і вось
апоўначы як быццам прыгадаў:
Антосю закурыць аднойчы ён не даў...
„Ах, дробная душа, ах ты паганец!
Знайшоў завошта злобу затаіць!“ —
запальчывы Савось Антося ганіць,
як кажуць, на чым свет стаіць...
Ну сустракаюцца цяпер Савось з Антосем,
Як ворагі, не размаўляюць нат.
Затое Апанас бясконца рад:
касу на камень навясці ўдалося.
Яно зусім няблага, калі ў вас
мой не прыжыўся Апанас.
Горш там, сябры, дзе часам
мы абдымаем Апанаса
і абяцаем век любіць
замест таго, каб „церабіць“.

**Васіль Жуковіч**

### З БЛАКНОТА ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— У вас, на жаль, павышаны ціск, — сказаў доктар Знахарук, канчаючы агляд дацэнта Скока.

— Баюся, доктар, гэта ўсё ад рыбнай лоўлі...

— Ад рыбнай лоўлі? Упершыню чую, каб ад гэтага мог падняцца ціск. Хутчэй наадварот.

— Калі не рыбачыць у забароненых для лоўлі месцах.

### КОЖНАМУ СВАЕ

— Кума, — крычыць абураны сусед, — зноў вашы трое хлопцаў узабраліся на маю яблыню!

— Ах, Божа мой, а дзе ж мой чацверты?

Сучасны Дыяген.

### НЕ ПЕРАШКАДЖАЙ

— Я думаю, Каця, табе даводзілася сустракацца з мужчынамі, якія былі менш прывабныя, чым я.

Настала доўгае маўчанне.

— Я сказаў, Каця, што...

— Не перашкаджай! Я намагаюся ўспомніць.

# Курʼёзы

### ПАДЫХОДЗЯЧЫ КАЛІБР

Улады заходнегерманскай зямлі Ніжняя Саксонія вырашылі пераўзброіць паліцыю. Цяперашні калібр паліцэйскіх пісталетаў — 7.65 міліметра, як заявіў міністр унутраных спраў зямлі Меклінгхоф, недастатковы каб „выводзіць правапарушальнікаў са строю адным выстралам“. Таму закуплена 15 тысяч пісталетаў 9-міліметровага калібру. У лік іх аплаты фірме-вытворцы здадзены ранейшыя пісталеты. Што яна з імі зробіць, улады кантраляваць не будуць. Між тым злачынцы лічаць, што іх задавальняюць пісталеты калібру 7,65.

### ЦІ АДРОДЗІЦЦА ТРАДЫЦЫЯ?

Ці адродзіцца на Мадагаскары традыцыйнае спартыўнае відовішча — „тульгумбі“ — барацьба з быком? Першае за апошнія гады такое прадстаўленне адбылося ў час аднаго са святаў у абшчыне Анусіпатрана, на ўсход ад малагасійскай сталіцы.

На востраве быкоў зебу, якіх тут налічваецца каля 10 мільёнаў, заўсёды лічылі меркай сацыяльнага становішча чалавека. Акрамя таго, яны займалі асаблівае месца ў духоўным жыцці продкаў малагасійцаў. Таму не магло быць і размовы аб тым, каб проста зарэзаць быка на мяса. Перад гэтым неабходна было памераўся з ім сілай, выходзячы на бой з голымі рукамі. Толькі пасля таго, як быка ўдавалася за рогі паваліць на зямлю, лічылася, што ён прайграў у сумленным паядынку, і яго забівалі. Трэба пры гэтым улічыць, што малагейскія зебу часта больш за іспанскіх быкоў і што такія спаборніцтвы не заўсёды заканчваліся перамогай чалавека.




**У зайца была свая думка, пакуль не пабываў на прыёме ...у ваўка.**